

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№12(525) 16 студзеня 1993 г. Субота. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### ВОЗ уехала из Беларуси. Скоро прибудут медикаменты

**Миссия европейского регионального бюро Всемирной организации здравоохранения завершила вчера пятидневное пребывание в Беларуси.**

В этот же день был подписан протокол о намерениях сторон. Им предусматриваются, как сообщает Белинформ, поставки медикаментов и современного оборудования в Беларусь, обмен информацией о новых методиках лечения и профилактике заболеваний.

### Банковская связь

**Новый вид сервиса решили предложить своим клиентам связисты Витебска.**

Они готовятся стать конкурентами Сберегательного банка. Для начала почтовые работники будут принимать от граждан плату за коммунальные услуги, а в дальнейшем намерены даже хранить деньги вкладчиков.

Сергей СЕРГЕЕВ.

### И "зубр" по зубам

**При подсчете выручки в одной из столовых Могилева обнаружена фальшивая денежная купюра Национального банка Беларуси достоинством в 100 рублей.**

Причем изготовлена она очень простым способом. Ее... нарисовали фломастерами на белой пергаментной бумаге. Да так ловко, что подделка не сразу бросилась в глаза...

Борис МИХЕЕВ, БелаПАН.

### Миллионы растут как на дрожжах

**Около 180 тонн кормовых дрожжей в год будет получать дополнительно Речицкий гидролизный завод благодаря новому оборудованию, позволяющему делать столь нужный продукт из собственных промышленных выбросов.**

Так что не только улучшится экологическая обстановка, но и заводская казна пополнится — тонна кормовых дрожжей оценивается теперь в 46 тысяч рублей.

Анатолий ЛИПСКИЙ.

### Что подхватит молодежь — не задушишь, не убьешь

**Договор о сотрудничестве подписан вчера между Федерацией профессиональных союзов и Союзом молодежи Беларуси.**

Продиктовало его понимание организациями того факта, что будущее нашего государства зависит от социальной адаптации молодежи в условиях перехода к рыночной экономике.

Ирина ФЕДОРОВА.

### Эколога коммунальники не греют

**Своеобразно разобрался со своим обидчиком начальник Докшицкой жилищно-коммунальной службы В.Кухто.**

По его команде в самые сильные морозы была прекращена подача тепла в индивидуальный дом начальника Докшицкой инспекции по экологии Геннадия Шепдо, исправно платившего за коммунальные услуги и отопление.

Вина Шепдо состояла в том, что он предъявил денежный иск коммунальникам за сброс 1130 кубометров неочищенных стоков в реку Березину. И лишь после вмешательства районного прокурора и председателя райисполкома жилой дом эколога был подключен к сети отопления и возобновлена подача тепла.

Владимир ШИК, РИД.

### Вкратце

**Во французской столице вчера завершилась церемония подписания конвенции о запрещении разработки, производства, накопления и применения химического оружия и о его уничтожении.**

В церемонии, проходившей в штаб-квартире ЮНЕСКО, участвовали посланцы 127 стран, в том числе — Беларуси, России, Украины, Казахстана и других бывших республик Советского Союза.

* * *

**В подмосковном Нахабино вчера завершился 8-й раунд российско-эстонских переговоров.**

Рассматривались проекты соглашений, затрагивающих экономические, военные, гуманитарно-правовые и пограничные вопросы.

* * *

**По прибытии в Сантьяго Э.Хонеккер, страдающий прогрессирующим раком печени, был немедленно помещен в одну из лучших клиник города.**

Выпущенный накануне из берлинской тюрьмы Моабит, он получил разрешение выехать в Чили, где проживает его семья.

* * *

**Пять стран — членов Совета Безопасности ООН — направили протест Хорватии в связи с нарушением ее самолетами запретной воздушной зоны над Боснией и Герцеговиной.**

По данным ООН, с 23 по 31 декабря зафиксировано 28 нарушений воздушного пространства в запретной зоне, причем 19 раз это было сделано самолетами хорватской или мусульманской стороны и только 7 раз — сербской.

* * *

**"Очень успешной" назвал президент Джордж Буш операцию ВВС США и их союзников по подавлению батарей ПВО в "запретной воздушной зоне" на юге Ирака.**

Избранный президентом США Билл Клинтон отметил, что не намерен нормализовывать отношения с Ираком, пока у власти в этой стране находится Хусейн.

* * *

**Совет Безопасности ООН рассмотрел ответ Ирака на требования о неукоснительном выполнении условий прекращения огня, отметив положительный сдвиг в иракской позиции.**

"Совет Безопасности выразил надежду, что иракские власти будут теперь полностью выполнять все резолюции Совета", — указал после консультаций постоянный представитель Франции при ООН Жан-Бернард Мериме.

* * *

**После беседы Бориса Ельцина и Леонида Кравчука один на один российско-украинские переговоры вчера были продолжены в расширенном составе.**

Из достоверных источников стало известно, что предполагается подписание решения о назначении командующего Черноморским флотом. На этот пост выдвинут вице-адмирал Эдуард Балтин.

* * *

**Итальянские экологисты намерены оказать помощь белорусским детям, пострадавшим от чернобыльской катастрофы.**

В частности, уже разработан проект, в соответствии с которым дети из районов с повышенным уровнем радиации проведут летние каникулы в реабилитационных центрах на Апеннинах.

По данным Лиги защиты окружающей среды, около 2,5 миллиона жителей республики в настоящее время проживают в зоне сильного радиоактивного загрязнения.

(ИТАР—ТАСС, "Народная газета".)

### Таможня постоянно что-то берет

**92 иконы на Брестской таможне были изъяты из-под обшивки одного из вагонов поезда Кострома—Варшава.**

Операцию проводили отдел по борьбе с организованной преступностью УКГБ по Брестской области, управление КГБ республики и одно из управлений Министерства безопасности России.

12 подозреваемых пассажиров были, естественно, с поезда сняты. Ведется разбирательство.

Александр ДИСКО.

***

**Слухи о том, что на Гродненской таможне берут взятки, подтвердились в очередной раз.**

На этой неделе сотрудниками милиции задержан с поличным инспектор П., который за содействие одной из местных фирм в прохождении таможенного досмотра не отказался от своеобразного презента — 13 "крупногабаритных" бутылок водки "Царица".

В наступившем году это первый здесь такой случай. В минувшем же их было несколько. Например, в декабре сотрудниками УКГБ за вымогательство иностранной и советской валюты у следовавших за границу туристов взяли под стражу сразу троих инспекторов таможни...

Константин БОЛОТЕВИЧ, Белинформ.

### Повесился из-за Гайдара

**65-летний пенсионер И.К. из города Курганинска Краснодарского края покончил с собой, узнав об отставке Егора Гайдара с поста главы правительства России.**

Наблюдая за перипетиями VII съезда народных депутатов России, пенсионер неоднократно заявлял соседям и знакомым, что, если Гайдар вынужден будет уйти в отставку, он не переживет этого. Окружающие относились к его словам как к шутке.

После того как завершился съезд и стало известно об отставке Гайдара, пенсионера И.К. нашли в петле.

(НЕГА.)



*Прамы дыялог*

## Няхай крокі будуць актыўнымі, але разважлівымі

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч прыняў кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, у склад якога ўваходзяць і народныя дэпутаты Алег Трусаў (старшыня Цэнтральнай рады БСДГ) і Мікалай Крыжаноўскі (намеснік старшыні).**

Як паведаміла прэс-служба Вярхоўнага Савета, праведзены кансультацыі па шырокаму спектру грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі на Беларусі. У прыватнасці, абмеркаваны пытанні прыватызацыі, праект Закона аб зямлі, праблемы СНД, судовая рэформа, падрыхтоўка новай Канстытуцыі.

Алег Трусаў перадаў кіраўніку парламента праграмныя дакументы партыі, прынятыя на другім з'ездзе БСДГ. Станіслаў Шушкевіч выказаў пажаданне, каб БСДГ стала моцнай сацыял-дэмакратычнай партыяй, талерантнай па духу, здольнай да актыўных і разважлівых крокаў, што адпавядаюць інтарэсам народа Беларусі.

У час сустрэчы адзначана, што лідэр парламента ўжо меў гутарку з членамі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. Пацверджана далейшая неабходнасць сістэматычных кансультацый кіраўніка дзяржавы з прадстаўнікамі розных палітычных плыняў з мэтай выпрацоўкі кампрамісаў і дасягнення згоды па найбольш вострых пытаннях жыцця дзяржавы.

Белінфарм.

### Паведамленне аб хваробе

Як паведаміла ўрадавая служба інфармацыі, Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебіч цяпер знаходзіцца ў клініцы, дзе яму зроблена нескладаная аперацыя на назе.

Белінфарм.

*Напярэдадні*

## Мінск рыхтуецца да сустрэчы

**У мінскай штаб-кватэры каардынуючых органаў СНД ідзе актыўная падрыхтоўка да будучага саміту ў беларускай сталіцы, які адбудзецца 22 студзеня.**

Напярэдадні гэтай падзеі — 20 студзеня ў Мінску збяруцца міністры замежных спраў і 21 студзеня — міністры абароны дзяржаў Садружнасці. Мяркуецца, што кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў разгледзяць папярэдні праект парадку дня сустрэчы ў вярхах, які затым канчаткова зацвердзяць кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў.

Тым часам у рабочых органах штаб-кватэры СНД працягваецца работа па стварэнню рада дакументаў, якія маюць немалаважнае значэнне для дзяржаў—членаў Садружнасці. У прыватнасці, 14 студзеня паўнамоцныя прадстаўнікі Беларусі, Кыргызстана, Туркменістана, Малдовы і Таджыкістана абмеркавалі праблемы, звязаныя з каштоўнымі паперамі. Магчыма, падрыхтаванае пагадненне будзе разгледжана ўжо на цяперашняй сустрэчы, але канчатковае рашэнне — за вярхамі. На гэтым тыдні экспертамі праведзена таксама работа па стварэнню дакумента, які вызначае ўзаемнае прызнанне правоў на льготны праезд у краінах Садружнасці для інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

Белінфарм.

### Осторожно, двери закрываются!

**Лишь по выходным дням можно отныне добраться автобусом из Витебска не то что в Ригу, Брянск и Смоленск, но и в большинство отдаленных городов Беларуси.**

Даже путешествие в Верхнедвинск, например, уже нельзя совершить в будни.

Автотранспортники объясняют отмену рейсов отсутствием запчастей. В свою очередь, председатель облисполкома Владимир Кулаков, подводя итоги года во время встречи по этому случаю с руководителями служб и ведомств, заявил, что убытки транспортников отчасти являются результатом безынициативности и что теперь бюджетная помощь будет выделяться не на покрытие всех расходов автопарка, а лишь под определенные объемы перевозок пассажиров.

Сергей БУТКЕВИЧ.

*Планета: рэтраспектыва тыдня*

## Кантрастныя працэдуры часоў Буша і Хусейна

Васіль СІЛЬЧУК

**Старт сёлетняга года ў сферы міжнароднай палітыкі прыкметна адрозніваецца ад пачатку многіх папярэдніх гадоў. Калі звычайна свет адпачываў і прыходзіў у сябе пасля бурных калядных і навагодніх свят, паступова акунаючыся ў мітусню будняў і злёгку задумваючыся аб перспектывах свайго развіцця ў новым годзе, дык на гэты раз яму падрыхтавалі халодны і гарачы душ, імгненна прывёўшы ў пачуццё і нагадаўшы, што мы сапраўды жывём у эпоху грандыёзных перамен...**

Першым такім падбадзёрлівым душам стала падпісанне прэзідэнтамі Расіі і Злучаных Штатаў Амерыкі Дагавора аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў СНУ-2 ужо на трэці дзень новага года. Яшчэ большую незвычайнасць гэтай акцыі надало тое, што з амерыканскага боку ў ёй "удзельнічаў" неперавыбраны прэзідэнт, што само па сабе з'яўляецца дастаткова экзатычнай з'явай у амерыканскім палітычным жыцці. Звычайна прэзідэнт ЗША, які пакідае пост, ужо з сярэдзіны лістапада пачынаў няспешна "пакаваць чамаданы", адыходзячы практычна ад усіх важных спраў і толькі падганяючы "хвасты", каб не даць лішняй зачэпкі сваім крытыкам кінуць яму ўслед жменю дадатковых папрокаў. Тым больш, пакідаючы свой пост, прэзідэнт амаль ніколі не прымаў важных палітычных рашэнняў, перакладаючы гэта на плечы свайго пераемніка.

На гэты раз — усё наадварот. Ствараецца ўражанне, што Джордж Буш імкнецца выняць з парахаўніц порах, які там яшчэ застаўся, і наладзіць на развітанне сабе і ўсёй сусветнай супольнасці маляўнічы і шумны феерверк. І акрамя асвяжальнага сюрпрызу, паднесенага 3 студзеня, Джордж Буш у самыя апошнія дні свайго прэзідэнцтва, што ўжо зусім незвычайна, наладжвае разам з англічанамі і французамі гарачы душ для Ірака і, уласна кажучы, для ўсяго свету ў выглядзе маланкавай бамбардзіроўкі іракскіх ваенных аб'ектаў на поўдзень ад 32-й паралелі. Такога спрыту ад Джорджа Буша наўрад ці хто чакаў. Але ўсе дзеянні амерыканскага прэзідэнта ў першыя два тыдні новага года лішні раз даказваюць, што ён з'яўляецца гросмайстрам у міжнародных адносінах і яму найбольш удаюцца партыі, у якіх фігуры дзейнічаюць на палях, дастаткова аддаленых ад Злучаных Штатаў.

Як я ўжо згадваў, удар па зенітных установках савецкай вытворчасці трыццаццю пяццю амерыканскімі знішчальнікамі, чатырма брытанскімі "Тарнада" і эскадрылляй французскіх "Міражоў" быў маланкавым, але ў той жа час кароткім. На больш балючыя акцыі Джордж Буш не пайшоў, хаця яму і раілі нанесці ўдар па ваенных базах Ірака. І без таго Садам Хусейн, выступаючы ў сераду вечарам па іракскім тэлебачанні, заявіў, што злачынцы (маючы на ўвазе саюзнікаў па антыіракскай кааліцыі) зноў вярнуліся, каб рабіць сваю чорную справу.

Так што не варта аддавацца ілюзіям наконт хуткага вырашэння канфлікту з Іракам. Садам Хусейн і ў далейшым будзе выпрабоўваць цярпенне заходняга альянсу, пагражаючы ракетамі, што засталіся ў яго распараджэнні, або будзе пастаянна рабіць спробы зацвердзіць сваю прысутнасць у суседнім Кувейце. Адпаведна і цяперашнія акцыі заходніх саюзнікаў у Іраку — далёка не апошнія. Дарэчы, гэта пацвердзіў у чацвер вечарам і брытанскі міністр абароны: "Калі спатрэбіцца — саюзнікі паўтораць свае дзеянні".

Праўда, новы амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан усё ж паспрабаваў працягнуць саломінку прымірэння Садаму Хусейну. У інтэрв'ю газеце "Нью-Йорк таймс" у чацвер ён заявіў, што не апантаны ідэяй зняць Хусейна з паста прэзідэнта і нават гатовы ўстанавіць нармальныя адносіны з іракскім лідэрам. Усё, паводле слоў Клінтана, будзе залежаць ад самога Садама Хусейна, калі ён перастане выпрабоўваць цярпенне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Такім чынам, першыя дні новага года паказалі, што свет па-ранейшаму знаходзіцца ў стане напружанага чакання, калі літаральна кожную хвіліну могуць адбыцца падзеі, якія зусім неспадзявана і па-новаму расстаўляць акцэнты ў сусветнай палітыцы. І гэтыя ж дні пацвердзілі, што, як правіла, апошнюю кропку ў расстаноўцы акцэнтаў ставяць сёння Злучаныя Штаты Амерыкі, якія прыкладна паўтара года назад упэўнена ўзялі ў свае рукі ўпраўленне развіццём падзей на нашай планеце. І сёння яны ўпэўнена трымаюць лейцы сусветнай калясніцы ў сваіх руках. Усяго праз пяць дзён гэтыя лейцы апынуцца ў руках новага ездака...

*Размова па шчырасці*

## "Правільная дзяржаўная палітыка ў адносінах да сям'і — гэта клопат аб нашай будучыні"

**Са старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па справах сям'і і моладзі Пятром МІЦЬКО гутарыць першы намеснік галоўнага рэдактара "Народнай газеты" Андрэй ЮДЧЫЦ.**



Пётр Міцько з сынам.

**— Цяпер аб рабоце Вярхоўнага Савета Беларусі гавораць рознае... Вядуцца размовы нават аб яго роспуску. А ваша, Пётр Антонавіч, ацэнка дзейнасці вышэйшага органа ўлады?**

— Гэта не той дэкаратыўны, паслухмяны Вярхоўны Савет, які існаваў многія дзесяцігоддзі. Гэта сапраўды вышэйшы орган улады суверэннай дзяржавы, ён прымае адказныя рашэнні і адказвае за лёс народа. Станаўленне нашага парламента прайшло, сёння ён ужо не такі, якім быў напачатку, — "шліфуе", удасканальвае сам сябе. Аднадумства няма — і гэта нармальная з'ява. Значыць, ідзе напружаны пошук аптымальных рашэнняў. Адбываюцца змены, мяняюцца настроі ў грамадстве — мяняецца і Вярхоўны Савет. Кажуць, мы часам спазняемся, марудзім. Але ж і паспешнасць, кавалерыйскія наскокі да дабра не прыводзяць. Трэба даць магчымасць гэтаму парламенту працаваць больш плённа, прадуктыўна.

**— Што вам асабіста не падабаецца ў стылі работы Вярхоўнага Савета?**

— Іншы раз замнога мітусні. Часамназіраецца імкненне не справу рабіць, а сябе паказаць. Больш трэба працаваць — і ўсім без выключэння — у перыяды паміж сесіямі. Не шукаць і не ствараць вобразы нейкіх ворагаў. Мы ўсе — сыны сваёй Айчыны, Беларусі.

**— Як вы ацэньваеце работу сваёй камісіі?**

— Людзі ў нас падабраліся невыпадковыя, нераўнадушныя. Прынята некалькі добрых законаў, пастаноў, якія спрацуюць на гэтым этапе дзяржаўнасці. Усё ж пачынаецца з сям'і...

**— Што прынесла задавальненне, пачуццё, гаворачы высокім стылем, выкананага доўгу?**

— Дапаможаш мнагадзетнай сям'і, хвораму дзіцяці — і ўжо ведаеш, што не дарэмна траціш час.

**— Ці бываюць такія выпадкі, лісты, такія наведвальнікі, пасля прыёму якіх не хочацца ні есці, ні піць, заснуць немагчыма?**

— Бываюць, і даволі часта. Вось зараз думаю, як вярнуць на радзіму дзяўчынку — яе падманам, незаконна вывезлі за мяжу.

**— Што мяшае ў рабоце?**

— Назваць кагосьці персанальна не магу. Мяшае людзям жыць па-чалавечы спад эканомікі, суровая рэчаіснасць, злачыннасць. Але як бы там ні было, прававую базу мы будзем напрацоўваць. Мы пачалі — нехта закончыць.

**— Сям'я наша пад ударамі эканомікі, інфляцыі загартоўваецца, мацнее ці наадварот?**

— На жаль, наадварот. Няма ладу ў жыцці — і сям'я, бывае, распадаецца. Гады тры-чатыры назад распадалася кожная чацвёртая сям'я, сёння — кожная трэцяя. І вяселляў усё менш.

**— Менш вяселляў — менш нараджаецца дзяцей. Ці будзе кім камплектаваць нашу армію?**

— Армію ўкамплектуем. Аднак трывожыць спад нараджальнасці. Мяркуйце самі: у 1980 годзе на тысячу чалавек прыйшлося 18 нованароджаных, у 1991 — 13. Прычыны шукаць трэба зноў жа ў эканоміцы, у няўпэўненасці людзей у заўтрашнім дні. Нават ложак купіць — для маладой сям'і праблема.

**— Не палохаючы людзей, скажыце, што трывожыць вас больш за ўсё?**

— Ды тое ж самае — спад нараджальнасці, дрэннае медыцынскае абслугоўванне, дрэннае харчаванне дзяцей. Пад пагрозай здароў'е нацыі, яе генафонд. Праз гадоў дваццаць можа быць чарговая дэмаграфічная "яма". Нельга забываць, што правільная дзяржаўная палітыка ў адносінах да сям'і — гэта клопат аб нашай будучыні.

**— Кажуць, некаторыя народныя дэпутаты толькі тое і робяць, што ездзяць за мяжу?**

— Не ведаю, як хто, а я з моманту выбрання народным дэпутатам Беларусі ні разу за мяжой не быў, нават да сястры ў Вільнюс ніяк не збяруся. Можа, гэта і дрэнна...

**— Выбранне народным дэпутатам — новы і вельмі значны віток асабістай біяграфіі. А новыя сябры з'явіліся?**

— Так, вядома. Калі б не выбралі мяне ў Вярхоўны Савет, то дзе б я сустрэў такога цудоўнага чалавека — Аляксандра Саснова? Дэпутацкі лёс звёў мяне з даўнімі сябрамі-аднакашнікамі па медінстытуту Аляксандрам Парулем і Віктарам Чыруном.

**— Што больш за ўсё цэніце ў людзях?**

— Чэснасць, прафесіяналізм, аддanасць справе. Пачуццё адказнасці.

**— Рызыкнулі б яшчэ раз выставіць сваю кандыдатуру на выбранне народным дэпутатам?**

— Відаць, не.

**— Бываюць моманты, калі хочацца ўстаць з-за стала і паехаць у Смалявічы, заняцца ранейшай справай — у якасці галоўнага ўрача раённай бальніцы?**

— Такія настроі часам бываюць, што казаць... Аднак мы, медыкі, павінны ўмець кіраваць сабой.

**— Вы старшыня Камісіі па справах сям'і і моладзі. У вас у сям'і хто галоўны? Вы ці жонка? Я, напрыклад, добраахвотна ўступіў першынство жонцы...**

— У нас у сям'і такое пытанне ніколі не стаяла. І я, і жонка, і два сыны маюць, як кажуць, аднолькавае права голасу.

**— Дзякую за шчырую гутарку, Пётр Антонавіч. Здароў'я і поспехаў у справе вам!**

— І вы будзьце здаровыя і шчаслівыя. Да пабачэння...

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Одичание*

# Выйдь к заводу! Чей визг раздается?..

**Чем круче бралось на мороз к вечеру, тем крепчала досада на шофера, уехавшего добывать свинину в Любанский район. Где его носит? Шестой час подряд экспериментальный цех Минского моторного завода в полном составе стоял у проходной под фонарями. Ждали. Жались по легковушкам. Но январский рождественский мороз, словно суперлезвием, прошивал насквозь кузова автомашин, обжигая и там холодом до костей. Губы одеревенели. Кожа на скулах натянулась и побелела. Лица людей стали похожи на маски. Они уже не выражали ничего...**

Елена МОЛОЧКО

Вдруг огромный суперМАЗ с 24-метровой фурой раздвинул тьму мощными фарами. Наконец-то! Тяжело развернувшись, машина остановилась, остывая от долгого пути. Наступила тревожная тишина. Толпа оцепенела от тяжких предчувствий. Почему не визжат свиньи? Неужели сдохли за дорогу? Обледенели, замерзли в открытой фуре?

Слабое хрюканье, которое раздалось-таки спустя немного времени и напоминало больше судорожный вздох или всхлип ребенка, было встречено ликованием. "Ура! Живы!" И тут же чей-то голос резко предупредил:

— Чур, это — моя!

Парень в ватовке кинулся к борту МАЗа, ловко подтянулся на руках и через секунду был уже наверху среди свиней. Он стал отчаянно расталкивать обалдевших от мороза животных, вдохновенно приговаривая:

— Это — моя, моя... Она меченая... Я специально в колхоз ездил выбирать!

И — началось. Откуда только силы взялись? Расталкивая друг друга, мужики кинулись брать фуру на абордаж. Цепким глазом, по-хозяйски намечали свинью покрупнее, хватали ее за ноги, за уши, за что придется и выкидывали за борт. Животные почти не сопротивлялись. Они и взвизгнуть не успевали, как оказывались на обледенелой земле с переломанным хребтом, покалеченными ребрами, перебитыми суставами. А там на них снова наваливались люди. С ножом, с шилом, с веревками. Хрясь! Вжик! Ух! Темные густые фонтанчики разлетались сотнями брызг. Азарт. Сила. Натиск. Ночь. Кровь. Снег. Бойня.

Кто-то из женщин не выдержал, истерично закричал:

— Люди, оставьте в живых хоть поросеночка! В нем весу-то 10 кило... Зачем он вам?..

Кто-то на всю мощь врубил транзистор, чтоб вообще ничего не слышать.

Кто-то тяжко пыхтел, сидя верхом на свинье, — только с пятого раза удалось в сердце попасть — у-у, работенка...

И вдруг:

—"Скорую"! Быстрее, человеку плохо!

Мужик в кожушке лежал на снегу, некрасиво, неправильно вывернув руку. Но разве можно услышать друг друга, когда идет добыча мяса?

И человек умер. Скончался прямо среди свиных туш. "Не соразмерил свои силы, бедняга... — говорят теперь печально о нем на заводе. Добавляют, помолчав: — Да, зрелище было не для слабонервных..."

А вообще-то народ на моторном остался доволен. Дешевая свининка к празднику — об этом в наше время можно только мечтать. Почаще бы такой бартер с колхозами делали. Ну, пришлось повозиться, так кому теперь легко? А к унижениям нам не привыкать: хоть и нервно, грязно, зато выгодно. Опять-таки, было чем закусить на Рождество, когда тост за духовное возрождение нации поднимали. Правда, вот летальные исходы... Кроме бедняги, что скончался прямо на месте, еще один не довез свое мясо до дома — разбил машину. А другому на следующий день за обедом, вроде, кость поперек горла стала — задохнулся, не спасли. Впрочем, об этом на заводе судачат вполголоса — может, надеются, это всего лишь слухи...

*Пазіцыя*

# Мы пратэстуем і прапануем

**(З заявы радыкальнага крыла Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі )**

Беларусь перажывае цяжкі і складаны перыяд пабудовы незалежнай дзяржавы. За апошні час быў прыняты шэраг пастаноў і законаў, дзейнасць якіх накіравана на адраджэнне беларускай нацыі, але, на жаль, яны існуюць толькі на паперы.

Амаль два гады ў Беларусі дзейнічае Закон аб мовах. Аднак за гэты час становішча з ёю не палепшылася, а нават пагоршылася. Згаданы закон не выконваецца, часта адкрыта ігнаруецца.

Цяжкае становішча з беларускімі сродкамі масавай інфармацыі. На сённяшні дзень існуе толькі адна чыста беларускамоўная штодзённая грамадска-палітычная рэспубліканская газета "Звязда", і то з расійскай назвай. Ідзе пераклад беларускамоўных выданняў у рускамоўныя ("7 дзён" на "7 дней", "Крыніца" на "Родник" і г.д.).

Нягледзячы на дэфіцыт паперы, кіёскі завалены газетнай рускамоўнай прадукцыяй.

Націск адчуваецца і на кнігарнях. Прама ў залах, дзе раней стаялі кнігі, адкрываюцца камерцыйныя аддзелы па продажу красовак ды жвачак. Усё гэта ідзе ў першую чаргу за кошт беларускіх аддзелаў — у кнігарні па вуліцы Кірава ў г.Мінску, напрыклад, такога аддзела ўжо няма.

Кепскае становішча з дзіцячай кніжкай на беларускай мове. Яшчэ гадоў пяць назад для дашкольнікаў можна было выбраць неблагія выданні. Цяпер яны зніклі!

Але найбольш небяспечнымі для будучыні з'яўляюцца спробы зрабіць расійскую мову дзяржаўнай. Мы лічым, што прыйшоў час ставіць пытанне аб значным змяншэнні аб'ёму вывучэння расійскай мовы ў навучальных установах да поўнага скасавання гэтага прадмета наогул, як зроблена ўжо ў Прыбалтыцы ды Малдове. Улічваючы тое, што расійскую мову на Беларусі ўсе і так добра ведаюць, лепш скарыстаць вызваленыя гадзіны на вывучэнне еўрапейскіх моў — англійскай, французскай і іншыя.

Жахлівае становішча і з беларускай культурнай спадчынай. Дагэтуль у руінах ляжаць помнікі беларускага дойлідства: замкі і палацы, культавыя будынкі, помнікі археалогіі, за 75 гадоў панавання на Беларусі русіфікатарскага ўрада не быў рэстаўрыраваны ніводзін (!) помнік.

Беларускае тэлебачанне з поспехам працягвае антыбеларускі кірунак, узяты рускамоўным друкам. Па сутнасці БТ з'яўляецца трэцяй праграмай Расійскага тэлебачання з невялікімі ўкрапленнямі перадач на беларускай мове.

Пералік антынацыянальных акцый, якія натхняюцца дзяржаўнымі структурамі, можа быць падоўжаны бясконца. Прыгадаем на заканчэнне зусім невыпадковыя для Беларусі адыёзныя арганізацыі тыпу "Славянский собор", "Белая Русь" і іншыя, дзейнасць якіх блізкая да такіх зарэгістраваных рухаў, як ДДР і ДСПС. Дзейнасць гэтых арганізацый носіць адкрыта шавіністычны характар, варожы беларускаму народу.

У сувязі з вышэйсказаным Рада РК НДПБ заяўляе:

дзейнасць урада і іншых дзяржаўных устаноў накіравана на падтрымку посткамуністычных структур, спрыяе яшчэ большаму пашырэнню русіфікатарскай і шавіністычнай палітыкі суседняй дзяржавы... Фарміраванне новага дзяржаўнага апарату павінна будавацца з улікам міжнародных нормаў прававой, дэмакратычнай і нацыянальнай дзяржавы.

Неабходна тэрмінова рэарганізаваць Беларускае тэлебачанне. Яно павінна служыць інтарэсам народа Беларусі, а яго рабочай мовай павінна быць толькі беларуская.

Неабходна забараніць на тэрыторыі рэспублікі дзейнасць арганізацый адкрыта расійска-шавіністычнага характару — "Славянский собор", "Белая Русь", "Движение за демократические реформы" і іншыя.

Мы пратэстуем супраць адмаўлення беларускаму народу ў правядзенні рэферэндуму за роспуск ВС і новыя выбары, што з'явілася знявагай амаль што паўмільёна грамадзян Беларусі, паставіўшых свае подпісы за рэферэндум.

*Хачу ведаць...*

# Як гучыць прысяга

*Напярэдадні Новага года беларускія вайскоўцы прымалі прысягу. Прабачце, але я не знаёмы з яе тэкстам. Не магла б "Народная газета" надрукаваць?*

Пётр АМЕЛЬЧАНКА.

*г. Гомель.*

Хоць тэкст гэтага ўрачыстага дакумента і быў надрукаваны ў розных выданнях, мы ўсё ж вырашылі задаволіць просьбу П.Амельчанкі. Ды і, бадай, не ўсе іншыя чытачы знаёмы з тэкстам прысягі.

**Ваенная прысяга**

"Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь (прозвішча, імя, імя па бацьку), знаходзячыся на службе ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, прымаю прысягу і ўрачыста клянуся высока несці гонар і годнасць воіна Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, добрасумленна авалодваць ваеннай справай, быць мужным, верным і самаадданым абаронцам свайго народа, свята выконваць Канстытуцыю, законы і воінскія статуты.

Калі ж я парушу гэту маю ўрачыстую клятву, то няхай мяне спасцігне суровая кара закона і ўсеагульная пагарда народа".

*Не хлебам адзіным*

# Каму замінае гліняны конік?

Як вы мяркуеце, што можа больш за ўсё спатрэбіцца ў жыцці кіраўніку дзіцячай студыі? Якую рысу характару трэба яму загартоўваць, мацаваць? Мужнасць!!!

Інакш не здолее чалавек амаль што задарма губляць свой асабісты час, кіруючыся толькі вышэйшымі бессмяротнымі ідэаламі. Да таго ж абсалютна ўсё даводзіцца рабіць уласнымі рукамі і асабліва не разлічваць на людскую ўдзячнасць. Выставы, конкурсы, народныя святы — гэта цікава, іншы раз весела і... вельмі клопатна. А сёння да прыемных творчых і неабходных гаспадарчых клопатаў яшчэ і зусім непатрэбныя стасуюцца. Пачалі апошнім часам зазіраць у памяшканне студыі нейкія "зафірмаваныя" паны, з вочкамі, як ртуць. Сценкі памацаюць, у кожны куточак зазірнуць і, нешта мармытнуўшы, знікаюць. Яно ж вядома, які "навар" з дзіцячай студыі керамікі, а начны кітайскі бар — куды больш сучасная і вясёлая справа.

Ды што ўжо там бізнесмену хітравокаму праклёнамі ўслед сыпаць, калі іншы раз і свой брат культработнік інтрыгі плесці пачынае...

А паведаміў нам у рэдакцыю аб сваім нялёгкім жыцці-быцці кіраўнік народнай студыі керамікі ВА "Мінскбудматэрыялы" Леанід Малышаў, якога разам з дзеткамі і ўсялякімі печкамі для абпалу керамікі спрабавалі выпхнуць на вуліцу зімовым паветрам дыхаць.



Міхась ЖЫЛІНСКІ.
*Фота аўтара.*

**P.S.** Пакуль гэты матэрыял рыхтаваўся да друку, газета атрымала запэўніванні загадчыка Кастрычніцкага раёна горада Мінска спадара Кабяка Віталя Яўстаф'евіча, што ён сваім гаспадарчым вокам будзе прыглядваць за лёсам гаротнай студыі.



*Здарэнні*

## І мы ўмеем "браць" банкі не горш нават, чым янкі

У гарадскім пасёлку Праўдзінск Пухавіцкага раёна невядомы злачынца ў чорных акулярах зайшоў у ашчадны банк і, пагражаючы прадметам, падобным на пісталет, звязаў абедзвюх супрацоўніц, забраў 83 тысячы рублёў і знік.

## Звоняць. Зачыніце дзверы

Дорага абышлася мінчанцы К. яе празмерная даверлівасць.

Адчыніўшы дзверы чатыром незнаёмым мужчынам, яна і апамятацца не паспела, як на руках шчоўкнулі наручнікі. "Абясшкодзіўшы" такім чынам гаспадыню, разбойнікі забралі 14 залатых і сярэбраных вырабаў, гадзіннік, фотаапарат і 3 тысячы рублёў.

Анатоль КУРДА.

*Несудебный очерк*

# Пуля в сердце или в душу?

Павел ЯКУБОВИЧ

Преступность и зло, как и колючая поземка над холодной смерзшейся землей, носятся над бескрайними равнинами от Немана до мыса Уэлен, над страной, еще вчера скрепленной железными обручами, а сегодня распавшейся на ее составные. Зло многолико. В ущельях, где дымится мрачный Терек, убивают из-за дедовских домов; в Сокольниках стреляют из-за очереди на такси, а на пляжах Гудауты соленые волны никак не смоют с гальки человеческую кровь, пролившуюся по причинам, которые не может уяснить человеческий разум.

Что может родить зло, кроме ненависти?

Сегодня обезумевшие мужчины истребляют друг друга, и это значит, что завтра возьмут в руки ножи их дети. Два года назад я был в Ереване и видел в переполненных гостиницах пятилетних армянских детей из Баку. Они играли в странные игры, и их матери, с иссохшими лицами, вырванные водоворотом из привычной жизни и брошенные в эти гостиницы-приюты, не спускали с детей глаз. Вчерашние бакинские детсадовцы могли убить друг дружку потому, что помнили, как горел, извиваясь, под окнами их той, еще бакинской, квартиры облитый бензином дедушка и как резали ножом папу. Эти дети, наверное, уже никогда не будут ни добрыми, ни веселыми.

Экраном, отражением всей этой нашей злобы становится, конечно, в иное время находящийся в тени, преступный мир, особое, изломанное сообщество людей, взявших за основу жизни отрицание морали и правил. Организованная уголовная преступность — верный и надежный спутник всех смутных времен. Причем у нас, традиционно, она приобретает особенно изощренно-жестокие формы, перед которыми бледнеют нравы сицилийских "отцов" вроде киношного дона Карлеоне или нравов американской тюрьмы Синг-Синг. Наш отечественный преступник хранит генетическую память многовековых грязи и унижений, и потому в душе юного воспитанника "детской" колонии непостижимым образом расцветают кровавые цветы описанной еще Власом Дорошевичем царской сахалинской каторги.

Я расскажу историю знаменитого "вора в законе" по кличке Володя-Бакенбард, с которым мне пришлось когда-то познакомиться и который потом пытался совершить побег из особо режимной зоны, побег этот прогремел на весь Север, который удивить вообще-то ничем невозможно.

Дело было близ заполярной Лабытнанги, куда вологодский конвой, который "не любит шуток", привез Бакенбарда в полосатой одежде и с 15-летним сроком. Оперуполномоченные, или "кумовья" зоны, были не очень довольны пополнением, но к их изумлению Бакенбард, по лагерному изречению, "лег в камыши", т.е. стал вести примерный образ жизни заключенного. Не отлынивал даже от лесоповала. Все свободное время его можно было видеть рядом с врачом из лагерной же амбулатории, тоже заключенным. Только потом всезнающие "кумовья" поняли суть этой странной дружбы. Вор Бакенбард прошел у врача полный курс патологоанатома. А потом, оставшись под каким-то предлогом в зоне, Бакенбард подошел к вольнонаемному шоферу, приехавшему на хоздвор, и завязал с ним ленивый разговор. "Как дела, земляк?" — "Ничего". — "Угости курнуть". — "На".— "Слушай, землячок, толкни письмишко на волю. За чирик". Ну, как отказать? Забыв инструктажи, шофер высунулся из кабины, и Бакенбард тут же смял его, перебросил, как барана, через плечи и забежал в пустую котельную. Через полчаса оттуда вышел совершенно иной человек, сел за руль и тронул машину с места. Конвойный солдат у шлагбаума открыл ворота, потянулся было открыть и другой, который с внешней стороны, шлагбаум, но вдруг передумал, подошел к машине и тоже попросил закурить. Он был знакомым шофера и потому удивился, что у него по шее течет струйка крови. А удивившись, присмотрелся и увидел, что из-под "гражданского ватника" проглядывает каторжный "матрац". Шофер поймал взгляд солдата, нажал газ, и машина пошла на таран. Но солдат уже стрелял вслед, загрохотали караульные вышки, и машина загорелась. Шофер вывалился из кабины, а когда к нему подбежали, он встал, снял шапку и, потянув за волосы, рывком сдернул с себя... лицо убитого им шофера. Когда "патологоанатома" взяли под конвой, он весело хохотал и обсуждал с онемевшими прапорщиками свою проделку со скальпом бедняги-шофера. Кстати, потом подобные "методы" взяли на "вооружение" и на других островах архипелага ГУЛАГ.

Такие вот существуют нравы в нашем преступном мире, о них я говорю специально потому, что сегодня эта тема становится больной и на Беларуси. В разных городах совершаются не только поражающие фантазию преступления, но и одновременно происходят события, свидетельствующие об ужесточении отношений между самими членами уголовного синдиката. Что такое воровские "разборки", что такое "сходка", где творится воровской суд? Вот свидетельства очевидца, рецидивиста Ч.: "После того, как сведения об обмане подтвердились, воры назначили сходку, на которую под благовидным предлогом был приглашен "подсудимый". ...На станции нас встретил Шанхай и указал, куда идти. Мы пошли в лесочек, где уже собралось более тридцати воров... Привели Седого и предъявили ему обвинение (в присвоении части денег при совершении групповой карманной кражи). Он начал отказываться, но это ни к чему не привело... Седой очень просил, молил, чтобы его не резали, оставили жить, пусть даже "босяком". Но никто не имел права отпустить его, так как потом с воров могли потребовать "ответа"...

Решили единогласно — смерть. Дядя Ваня (старший) вынул сигарету и дал Седому. Седой закурил и попросил выпить.

— Пей, сколько хочешь, — сказал Дядя Ваня.

После небольшого спора Дядя Ваня предложил не убивать ножом: много будет "шухера" (шума). Так как на сходке все были без оружия, то он послал одного вора за пистолетом.

Когда тот пришел с немецким парабеллумом, Седой стал как сумасшедший. Он выпил четыре стакана водки, но был совершенно трезв. Седой обратился к самому авторитетному вору:

— Полковник, братуха, а может, все-таки простите?

— Нет, не имеем права, ты же сам знаешь, — ответил тот и подал ему пистолет, заряженный одним патроном. — На, Седой, умри как мужчина.

Седой быстро взял его, приставил к виску, посмотрел кругом и почему-то на небо... Раздался выстрел..."

Вполне возможно, что подобные "картинки" стали частью жизни и у нас. Хорошо известно, что два мира — обычный и преступный — находятся между собой в полном соответствии с законом сообщающихся сосудов. И поскольку в большом мире идет безжалостная борьба за власть, то она эхом отозвалась и среди уголовников. Там тоже делят сферы влияния, укрепляют "авторитеты". Но, конечно же, в крайних и весьма мрачных формах. Я уже писал о выстрелах в минском кафе "Красный мак", о других драматических "разборках". Несколько дней назад в Минске хоронили молодого мужчину, имевшего немалый авторитет и известность в своем мире. В него всадили пять пуль, т.е. расстреливали хладнокровно и наверняка.

Отвлекусь от законов "жанра", который "требует" расписать подробности, заклеймить "нравы" уголовников, противопоставить "их" морали несколько верных и расхожих истин. Вероятно, здесь нужна иная тональность. Я абстрагируюсь от того, что все эти "воры в законе", "положенцы", "авторитеты" и пр. не только люди, меченные преступлением и тюрьмой. Я вспоминаю о том, что это чьи-то дети, мои сограждане, люди, в конце концов, и потому не нахожу порой в себе сил и права судить их и тем более выносить им приговор. Мне хочется сказать о другом, о том, что за такими популярными ныне словами, как "дележка власти", "разборки", "беспредел", прячутся древние как мир проблемы. Чего не поделил убитый недавно в лесу человек, которому кличка заменяла имя и фамилию, со своим убийцей? Почему им стало тесно вдруг на земле? Гордыня, самый страшный человеческий грех поднял безжалостную руку и пять раз нажал на курок.(Кстати, не этот ли грех обуревает сегодня и многих политиков-честолюбцев, жонглирующих судьбами миллионов?) Кто-то вновь хотел возвыситься над остальными, помыкать сильными и унижать слабых. И потому состоялся этот "суд". И как он себя чувствует сегодня, тот человек, прервавший другую жизнь не ради куска хлеба, не ради высокой идеи (хотя, конечно, и эти причины — ничто по сравнению с жизнью!), а только для удовлетворения собственной гордыни. Ведь его жестокость обязательно бумерангом вернется к нему самому. Может быть, сейчас он раскаивается, а может быть, наоборот, упоенный своей отвагой, горделиво смотрит на правую руку, которая еще не остыла от черной рукоятки пистолета?

На тех похоронах было сказано много слов и пролито много слез. Ушел человек. Был он отнюдь не образцовым гражданином, но все же никто не имел права лишать его жизни. И потому этот маленький очерк нравов я назвал "несудебным"... Может быть, его прочитают и те, кто причисляет себя к "преступному миру", и очень надеюсь, что согласятся со мной в том, что если уж человеку — а не государству, разумеется! — дано право судить, то разве лишь самого себя. Да и в Вечной книге сказано:"...Ибо каким судом судите, таким будете судимы".

*Рэпарцёр даведаўся*

# "Спадар Шушкевіч? Клінтан на провадзе!.."

**У Мінску прайшоў чарговы раунд перагавораў паміж дэлегацыямі міністэрстваў абароны Рэспублікі Беларусь і ЗША, якія абмяркоўваюць магчымасць устанаўлення лініі прамой экстраннай сувязі паміж Мінскам і Вашынгтонам.**

Гэтай лініяй мяркуецца карыстацца ў першую чаргу для ўзаемнага абмену інфармацыяй па дагаворах аб стратэгічных наступальных узбраеннях (СНУ) і ракетах сярэдняй і меншай дальнасці (РСМД).

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, амерыканцы прапанавалі ўстанавіць прамую лінію "гарачай" спадарожнікавай сувязі — "Хот лайн". Такі тэлефон змогуць у любую мінуту выкарыстаць для неадкладнага абмену інфармацыяй не толькі эксперты па раззбраенню, але, што яшчэ больш важна, — кіраўнікі Беларусі і ЗША.

Леанід ТРАЦЭЎСКІ.

# Заткнём за пояс Якуцію?

**Геолагі Беларусі абнадзейваюць, што з цягам часу рэспубліка будзе менш залежнай ад паставак замежнай сыравіны.**

Гаварыць аб гэтым даюць падставы не толькі знойдзеныя на Гомельшчыне кімберлітавыя трубкі, якія абяцаюць рэспубліцы ўласныя алмазы, але і выяўленыя ў нетрах Беларусі вялікія запасы жалезнай руды.

Савет Міністраў рэспублікі даў "дабро" прапанове беларускага дзяржаўнага навукова-даследчага прадпрыемства "Белгеа" арганізаваць работы па правядзенню экспертнай геолага-эканамічнай ацэнкі жалезарудных радовішчаў рэспублікі.

Паводле папярэдніх даных, Беларусь мае запасы жалезных руд, якія вылічваюцца сотнямі мільёнаў тон. Пры штогадовым спажыванні нашымі прадпрыемствамі 5 мільёнаў тон жалеза наяўнай руды павінна хапіць на доўгія дзесяцігоддзі.

# І ўсё ж — расцём!

**Нягледзячы на спад у эканоміцы, беларуская сталіца працягвае будавацца.**

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў гарвыканкаме, у бягучым годзе аб'ём капітальных укладанняў у будаўнічую індустрыю з усіх крыніц фінансавання дасягне ў Мінску 18—20 мільярдаў рублёў. Тут плануецца ўзвесці не менш за 800 тысяч квадратных метраў жылля, увесці ў строй школы на 7 тысяч месц, дзіцячыя сады для 4 тысяч дзяцей, паліклінікі на 2,5 тысячы наведванняў у дзень.

Акрамя таго, камунальная гаспадарка горада папоўніцца 45 кіламетрамі водаправода, іншымі інжынернымі збудаваннямі. Адкрыюцца новыя маршруты аўтобусаў і тралейбусаў. Будзе прадоўжана будаўніцтва метро, аўтавакзала "Маскоўскі", іншых аб'ектаў сацыяльнай сферы. Звыш мільярда рублёў выдзелена Мінску на прыродаахоўныя мэты.

# А мастак узяў матыку...

**Тайнае саперніцтва самабытных і вельмі цікавых беларускіх мастакоў, што на працягу ўсяго мінулага года выстаўляліся ў самай моднай мінскай галерэі "Віта нова", завяршылася поўным трыумфам Цімура Грыба.**

21-гадовы мастак стаў пераможцам у намінацыі "Адкрыццё сезона" і атрымаў першую прэмію.

Работа маладога аўтара "Чырвонае і чорнае" вытрымала вялікую канкурэнцыю. Наведвальнікі галерэі памятаюць праекты Мікалая Халезіна і Васіля Шугалея, выстаўку работ Аляксандра Салаўёва, іншых мастакоў. Тым не менш экспазіцыю Цімура Грыба, выкананую з розных прадметаў быту (садовая матыка, шкарпэткі, вешалка...), журы палічыла самай цікавай.

Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,
Белінфарм.

